БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

28 красавіка 1994 г.

Чацвер

№ 45(13762)

Кошт у розніцу 100 рублёў

Выдаецца з 1921 года



Малюе Віктар ДУБОВІК




## ВЯСНА – 94

*Прыйшло цяпло, і колькі б ні гаварылі пра цяжкасці нашай сельскай гаспадаркі, сяляне пачалі сяўбу. І няхай будзе цяжка з палівам, запчасткамі, крэдытамі, — яе правядуць усе гаспадаркі.*

*З усімі гэтымі цяжкасцямі сутыкаюцца і ў калгасе "Прамень камуны", што ў Салігорскім раёне. Нямала намаганняў прыходзіцца прыкласці старшыні калгаса Івану Іванавічу СЯЧКО, каб палявыя работы прайшлі паспяхова. У мінулым годзе ў гаспадарцы атрымалі больш як 45 цэнтнераў збожжавых з гектара — адзін з лепшых паказчыкаў у раёне. І гэта пры тым, што больш чым палавіну ворных зямель займаюць падземныя распрацоўкі "Беларускалія". А гэта пастаяннае асяданне глебы, забалочванне і засаленне зямель...*

(Працяг фотарэпартажу на 2-й стар.)



## Кур'ер "ЧЗ"



26 красавіка ў сталічным парку Дружбы народаў ля памятнага знака ахвярам Чарнобыля адбыўся мітынг. За нашу шматпакутную Беларусь, пасыпаную радыеактыўным попелам, адслужылі малебен свяшчэннікі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў.

Фота Сяргея БРУШКО.

### Улічым міжнародны вопыт?

*У Мінску прайшоў міжнародны семінар, на якім разглядаліся праблемы прыватызацыі ў нашай рэспубліцы.*

Як вядома, прыватызацыйныя працэсы на Беларусі толькі набіраюць сілу і праходзяць даволі няпроста. Сапраўды народная прыватызацыя, на думку экспертаў, атрымае развіццё, калі пачнуць прадаваць імянныя прыватызацыйныя чэкі. Дарэчы, у красавіку іх уладальнікамі стануць не менш як дзесяць працэнтаў грамадзян. Сёння ўжо 24 фірмы заявілі аб намеры стаць інвестыцыйнымі фондамі. Таму міжнародны вопыт у сферы прыватызацыі, практычны бок пытання набываюць вельмі актуальнае гучанне.

У семінары, акрамя прадстаўнікоў Беларусі, прынялі ўдзел навукоўцы і прадпрымальнікі са Злучаных Штатаў, Англіі і Расіі. Разглядаліся, у прыватнасці, пытанні акцыяніравання прадпрыемстваў, фінансава-інвестыцыйнай дзейнасці, механізмы абарачэння імянных прыватызацыйных чэкаў.

Якаў ЯСЭПКІН.

### Крыўдзіць студэнта небяспечна

*Будучыя бізнесмены з Беларускага камерцыйнага універсітэта кіравання не сталі, падобна да іншых, кідаць у паветра рытарычнае пытанне "Хто абароніць беднага студэнта?". Памятаючы вядомую прымаўку пра тапельцаў, вырашылі ратаваць сябе самі, стварыўшы на мінулым тыдні ўласную прафсаюзную арганізацыю. Узначаліў яе студэнт–першакурснік Андрэй Дземідовіч.*

Напярэдадні тут адбылася даволі брудная гісторыя, калі цяпер ужо былы рэктар прымушаў студэнтаў рабіць даплату за навучанне на свой асабісты рахунак. Тыя, у каго не знаходзілася "лішніх" грошай, не атрымлівалі заліковых кніжак, ім пагражалі пазбаўленнем дазволу здаваць залікі і экзамены... У рэшце рэшт студэнты зразумелі, што спадзявацца варта толькі на саміх сябе — і прыйшлі да высновы аб неабходнасці з'яўлення арганізацыі, што абараняла б іхнія інтарэсы. Цяпер без згоды універсітэцкага прафсаюза дэканат не зможа прыняць рашэнне ні аб адлічэнні студэнтаў, ні аб звальненні непажаданых кіраўніцтву супрацоўнікаў навучальнай установы. У хуткім часе студэнцкі прафсаюз збіраецца ўсур'ёз заняцца вырашэннем пытання будучага працаўладкавання выпускнікоў універсітэта.

Ірына ЗАВАДСКАЯ.

### Удар па валюце?

*Як стала вядома з неафіцыйных, але вельмі надзейных крыніц, ва ўрадзе практычна ўжо гатова рашэнне аб адмене свабоднага хаджэння замежнай валюты ў гандлі.*

У гэтым выпадку ў пройгрышы могуць аказацца тыя, хто захоўвае свае сродкі ў СКВ...

Кацярына ВЫСОЦКАЯ.

### "Пралеска" расцвіла вясною

*Калі над піянерлагерам "Вясёлка" і санаторыем–прафілакторыем "Пралеска" Жлобінскага вытворча–гандлёвага аб'яднання "БелФА" навісла сур'ёзная пагроза закрыцця, абласны савет федэрацый прафсаюзаў быў вымушаны тэрмінова дзейнічаць — так і з'явілася рашэнне стварыць на базе гэтых будынкаў лячэбна–аздараўленчы комплекс "Пралеска".*

У "акцыю" па выратаванню санаторыя і былога піянерскага лагера ўключыліся жлобінскія футравікі і мясцовае аддзяленне фонду "Дзецям Чарнобыля". Нядаўна новы комплекс прыняў сваіх першых пацыентаў. Імі сталі 300 вучняў сярэдніх школ Жлобінскага раёна і самога Жлобіна, а таксама школьнікі суседняга Буда-Кашалёўскага раёна. Цяпер мяркуецца праводзіць круглагадовае аздараўленне юных жыхароў гэтых двух раёнаў.

Мікалай ШУКАНАЎ.

### "Дом–арт" у Маладзечна

*Мастацкая маладзёжная галерэя "Дом–Арт" створана ў Маладзечна. Яе супрацоўнікі правялі ўжо дзве выставы мастацкай керамікі, жывапісу, графікі.*

— "Дом-Арт" — грамадская структура,— падкрэслівае арганізатар галерэі Любоў Камлюк.— У сваёй дзейнасці мы ставім адзіную мэту: даць маладзечанцам магчымасць бачыць сінтэз мастацтваў, найлепшыя ўзоры творчасці.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

### "Салям" ад барда

*Зноў сталіца прымае зорак нацыянальнай папулярнай музыкі. Гэтым разам у Мінску выступіць аршанскі бард Андрусь Мельнікаў.*

Сольны выступ гэтага папулярнага выканаўцы арганізавала Задзіночанне беларускіх студэнтаў. Канцэрт адбудзецца 29 красавіка ў 18.30 у Палацы моладзі, што непадалёку ад Камсамольскага возера.

Бадай, зацікавіць гэта імпрэза і тых, хто добра знаёмы з творчасцю Андруся Мельнікава і тых, хто пачуе яго ўпершыню. Для ўсіх асноўнай рысай канцэрта будзе навізна. Справа ў тым, што гэта прэзентацыя найноўшага альбома выканаўцы, які мае даволі экзатычную назву "Салям саўкам!"

Вітаўт МАРТЫНЕНКА.

### "Чужая мілая" і дубль два!

*Больш як паўтара месяца спатрэбілася групе пад кіраўніцтвам рэжысёра Б.Бахціярава для таго, каб падрыхтаваць да эфіру двухгадзінную тэлеверсію сольнага канцэрта беларускай поп–зоркі А.Саладухі "Прывітанне, чужая мілая!", які адбыўся напярэдадні 8 Сакавіка.*

2 мая, на другі дзень праваслаўнага Вялікадня, уладкаваўшыся вечарам пасля ўсіх клопатаў у 18.35 ля тэлевізараў, шматмільённая аўдыторыя зможа ўбачыць, што ж на самай справе адбывалася на бенефісе вядомага спевака ў перапоўненай зале ЦДА сталіцы. А таксама пачуць стаўшыя папулярнымі ў СНД такія шлягеры апошніх гадоў, як "Зачараваная фея", "Каралева", "На вуліцы старажытнай" і зусім новыя песні ў выкананні Саладухі і артыстаў гурта "Карусель-2". Вядома, што ніяк не абыдзецца без "Чужой мілай", стаўшай своеасаблівай візітнай карткай Аляксандра.

Барыс АЛЯКСЕЕЎ.

### Курсы валют на 27 красавіка:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс"- | 15400 | 15980 | 9160 | 9510 |
| "Пошук" | 15400 | 15950 | 8800 | 9400 |
| "Прыор" | 15000 | 15300 | 8800 | 10000 |

ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

## Свабодны сход ці палітычная акцыя?

□ Лілія ГРЫНЯВЕЦКАЯ, "ЧЗ"

*У мінулыя пятніцу і суботу Дом літаратара прымаў дэлегатаў і гасцей I сустрэчы беларускай моладзі свету.*

Каля 150 прадстаўнікоў беларускіх маладзёжных суполак з краін Балтыі, Польшчы, Сярэдняй Азіі, Расіі, Украіны і Малдовы на два красавіцкія дні прыехалі ў сталіцу для таго, каб сказаць:"мы ёсць і праблемы метраполіі (маладзёжныя і іншыя) для нас немалаважныя".

Ідэя падобнай сустрэчы ўзнікла напрыканцы мінулага года і першапачаткова планавалася як рабочая нарада 20—30 кіраўнікоў маладзёжных арганізацый блізкага замежжа. Даволі сціплая задумка паступова пераўтварылася ў мерапрыемства прыблізна памераў з'езда, нягледзячы нават на тэрытарыяльна акрэсленае кола ўдзельнікаў.

На заключнай прэс-канферэнцыі арганізатары з Задзіночання беларускіх студэнтаў назвалі сустрэчу беспрэцэдэнтна важнай падзеяй у жыцці краіны. Беларускамоўная, скіраваная на нацыянальнае адраджэнне, актыўная моладзь з розных краін дыпламатычна выказала сваю занепакоенасць няпростым, нават трывожным сённяшнім днём Бацькаўшчыны ў выніковай рэзалюцыі сустрэчы "Аб палітычным становішчы ў Рэспубліцы Беларусь", але галоўны прэцэдэнт мерапрыемства заключаецца ў тым, што яно ўвогуле адбылося, нягледзячы на арганізацыйныя і матэрыяльныя цяжкасці, звязаныя з малой фінансавай падтрымкай сустрэчы з боку дзяржавы.

Зразумела, недахоп фінансаў не лепшым чынам адбіўся на арганізацыі сустрэчы, недакладнасці якой акрамя іншага тлумачацца яшчэ і вельмі маладым узростам арганізатараў, якія ладзілі падобную імпрэзу ўпершыню. Але трэба канстатаваць, што матэрыяльныя і арганізацыйныя недарэчнасці менш за ўсё турбавалі ўдзельнікаў. Многія з іх — студэнты, без залішніх амбіцый, актывісты маладзёжных рухаў, якіх цяжка напалохаць жыццём у студэнцкім інтэрнаце замест асобных нумароў раскошнага гатэля.

Увогуле ў праграме сустрэчы было шмат дзелавых мерапрыемстваў, але, магчыма, галоўным сталася тое, пра што казалі многія выступоўцы: сустрэча дала магчымасць пазнаёміцца, пэўным чынам псіхалагічна аб'яднала адарваныя беларускамоўныя маладзёжныя асяродкі цяпер ужо розных краін. А гэта вынік не меншы, чым самыя лепшыя рэзалюцыі, пастанова ці зварот.

Маладзёжныя мерапрыемствы нават з самымі гучнымі назвамі (калі яны сапраўды маладзёжныя па ўзросту ўдзельнікаў) маюць адну асаблівасць: у прамовах удзельнікаў амаль поўнасцю адсутнічае патэтыка. Без яе, зразумела, цалкам абысціся немагчыма, але, думаецца, што (хоць гэта і жорстка гучыць) узнёсласць, заклікі і стогны гэтак жа могуць нашкодзіць справе нацыянальнага адраджэння, як і абыякавасць, індыферэнтнасць, маўчанне. І проста таму, што ўзнёслае хутка надакучвае, і таму, што не кожны даскочыць да самай высокай планкі грамадзянскіх пачуццяў, якую ўсталёўваюць першыя з першых. Многія ўдзельнікі ў сваіх выступленнях казалі:"Трэба перастаць наракаць на лёс, усё залежыць толькі ад нас, ад таго, як мы возьмемся за справу". Сапраўды, колькі ні паўтарай слова "цукар" — у роце салодка не стане, трэба зарабіць на гэты цукар і яго з'есці.

Як зарабіць — гэта абмяркоўвала за круглым сталом "маладзёжнае прадпрымальніцтва". Як дзяржава павінна дапамагаць заканадаўствам маладзёжнай ініцыятыве — пра гэта ішла гаворка за круглым сталом удзельнікаў сустрэчы з прадстаўнікамі дзяржаўных установ Беларусі.

Акрамя звароту "Да беларускай моладзі" сустрэча фармальна ўвянчалася прыняццем пастановы "Аб выбранні выканаўчага камітэта сустрэчы". Гэта ў пэўным сэнсе і ёсць той самы адзіны каардынацыйны цэнтр, пра магчымае ўтварэнне якога шмат гаварылася напярэдадні сустрэчы. Акрамя падрыхтоўкі наступнага з'езда (ён плануецца на восень і будзе больш сціплым па памерах), выканаўчы камітэт зоймецца ўсталяваннем сталага інфармацыйнага кантакту паміж беларускімі суполкамі розных краін, магчыма, будзе выдаваць інфармацыйны бюлетэнь, а таксама штурхаць у жыццё ідэю ўтварэння блоку маладзёжных арганізацый. Апошнім часам гэта ідэя проста-такі носіцца ў паветры. Моладзь, як і "дарослыя" адчула, што сіла ў адзінстве і разам можна ўсё: сабрацца на з'езд ці сход, зрабіць палітычную заяву і, можа, нават быць пачутымі.

ВЕСТКІ З ПАРЛАМЕНТА

## Нечаканы паварот

□ Вольга ШАЎКО, "ЧЗ"

*Учора пачала работу нечарговая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.*

На гэты раз не было прывычных выступленняў у "розным", і дэпутаты адразу прыняліся за асноўныя пытанні сесіі. Як і трэба было чакаць, найбольшыя спрэчкі выклікаў парадак дня. Унесены Прэзідыумам Вярхоўнага Савета, ён тут жа дапаўняўся, пашыраўся, змяняўся выступаючымі ля мікрафонаў. Апазіцыя настойліва патрабавала разгледзець пытанне аб парушэнні Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь пад час падпісання пагаднення аб аб'яднанні грашовых сістэм. Аднак гэтае імкненне групы дэпутатаў кіравацца літарай прынятага ўжо асноўнага закону не знайшло падтрымкі ў большасці. Гэтак жа як не далі парламентарыі згоды і на тое, каб у Авальнай зале абмяркоўваліся прапановы дэпутата А.Лукашэнкі: аб справаздачы ўрада Беларусі па цэнаўтварэнню ў рэспубліцы і дэпутата В.Кучынскага наконт пытання аб працягу работы "антыкарупцыйнай" камісіі.

Нечаканым быў паварот падзей, калі парламентарыі паставілі пад сумненне мэтазгоднасць абмеркавання падрыхтаванага ўжо і прапанаванага Прэзідыумам ВС праекта закона "Аб амністыі ў сувязі з 50-годдзем з дня вызвалення Рэспублікі Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў".

Здавалася, гэта гуманная акцыя не выклікае пярэчанняў. Аднак, аргументы дэпутата Б.Савіцкага супраць яе насцярожылі залу. На яго погляд, такі акт не пойдзе на карысць грамадскай думцы, якая сёння надзвычай устрывожана ростам злачыннасці. "Што тычыцца амніціравання асуджаных удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, – заўважыў дэпутат, – то для гэтага дастаткова рашэння Прэзідыума Вярхоўнага Савета". У выніку законапраект аб амністыі быў зняты з парадку дня. Прыхільнікі ж яго спрабавалі зноў прыцягнуць увагу сваіх калег да пытання і дабіліся таго, што на галасаванне праект закона быў пастаўлены ўжо ў іншай фармулёўцы: амністыю прапаноўвалася аб'явіць не толькі ў сувязі з 50-годдзем вызвалення Беларусі, а і з нагоды прыняцця новай Канстытуцыі рэспублікі. Аднак ні аргументы аб тым, што не такая ўжо вялікая колькасць асуджаных падпадае пад гэты акт – усяго каля 5 тысяч чалавек (а сёння ў рэспубліцы адбываюць пакаранне больш як 50 тысяч грамадзян), ні аб тым, што ў сённяшніх месцах пазбаўлення волі ўмовы ўтрымання не адпавядаюць ніякім санітарным нормам, і пэўны працэнт людзей трапляе сюды выпадкова з-за няякаснай работы праваахоўных органаў, не мелі свайго ўздзеяння на дэпутацкую аўдыторыю. Гэтыя довады разбіваліся аб пытанні: дзе будуць працаваць амніціраваныя, калі ў рэспубліцы пануе беспрацоўе, хто будзе ствараць праграмы для іх сацыяльнай рэабілітацыі. Галасаванне па гэтаму законапраекту не набрала большасці.

Такім чынам, нечарговая сесія Вярхоўнага Савета прыступіла да разгляду пытанняў парадку дня, у тым ліку аб выбарах членаў Канстытуцыйнага суда і змяненнях у нашым падатковым заканадаўстве, а гэта мае асаблівае значэнне, калі рабіць стаўку на тое, што з першага мая пачнецца першы этап аб'яднання грашовых сістэм Расіі і Беларусі.

"Еўраньюс" — "Суперчэннэл" — "Уорлднэт" — "TV-5"

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



Дзяжурны па выпуску — Я.ЯСЭПКІН.

### Даляру не пагражае інфляцыя, але...

*Фальшываманетчыкі ўсяго свету дасягнулі такіх "поспехаў" у сваёй "справе", што амерыканскія ўлады збіраюцца выпусціць новыя 100-даляравыя банкноты, якія больш складана падрабіць.*

Нацыянальная акадэмія навук ЗША ў спецыяльным дакладзе прапанавала ўладам абараніць грашовыя банкноты "высокатэхнічнымі сродкамі". Супрацоўнікі амерыканскага кангрэса паведамляюць зараз, што сярод такіх "навінак" абмяркоўваюцца: перамена месца партрэта прэзідэнта на купюры, выкарыстанне невялікіх галаграм, вадзяных знакаў і шматкаляровы друк.

### Разбіўся аэробус

*У аэрапорце японскага горада Нагоя пацярпеў катастрофу тайваньскі аэробус "А-300", на борце якога знаходзілася 256 пасажыраў і 15 чалавек экіпажа.*

У жывых засталося каля 40 чалавек. Мяркуемая прычына катастрофы — нявыхад шасі пры заходзе самалёта на пасадку.

### "Сакрэтная зброя" ў руках венгерскіх "зялёных"?

*Венгерская "партыя зялёных" выступіла супраць далучэння краіны да НАТО.*

У выпадку свайго прыходу да ўлады, "зялёныя" абяцаюць стварыць новую сістэму абароны краіны з дапамогай "новай сакрэтнай зброі".

### Тайвань: карупцыя – вынік выбараў?

*У Тайвані апублікаваны афіцыйныя звесткі паліцэйскага дэпартамента, якія, нібыта глыбокі шок, уздзейнічалі на грамадства.*

Высветлілася, што з 858 народных абраннікаў, якія атрымалі дэпутацкія мандаты ў гарадскіх і сельскіх акругах, больш як 300 чалавек з'яўляюцца выхадцамі з крымінальнага асяроддзя і звязаны з гангстэрскімі сіндыкатамі.

Гэтая інфармацыя была "выдадзена" начальнікам тайваньскай паліцыі Лю Ючанам на слуханнях у парламенце. Сродкі масавай інфармацыі адзначаюць вялізны размах карупцыі ў краіне, выкліканы выбарчай кампаніяй.

### Брытанская карона абараняецца

*Каралева Вялікабрытаніі Елізавета II распарадзілася пакрыць асабліва трывалым матэрыялам вокны Букінгемскага палаца.*

Такое распараджэнне было дадзена ёю з-за апасенняў перад дыверсіямі тэрарыстаў ірландскай рэспубліканскай арміі. Меры бяспекі абыдуцца кароне ў 2,5 мільёна даляраў.

### Шлюбы з бойкамі

*Дамашнія бойкі даволі сур'ёзна пагражаюць сямейнаму шчасцю пекінцаў. Такія высновы Кітайскага інстытута сацыялогіі.*

Згодна са статыстыкай, кожны пяты жанаты пекінец рэгулярна б'е сваю палавіну, а кожная сёмая замужняя жанчына асмельваецца падняць руку на свайго мужа.

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

"Уорлднэт" — "Суперчэннэл" — "Еўраньюс" — "TV-5"

### Упершыню ў гісторыі

*Упершыню за трохсотгадовую гісторыю праўлення ў ПАР белай меншасці, чарнаскурае насельніцтва гэтай краіны прыме ўдзел у выбарах ва Устаноўчы сход.*

Сход, у сваю чаргу, павінен сфарміраваць урад нацыянальнай згоды.

### Сенсацыя ў Боне

*У Боне шэсць вядучых навукова-даследчых інстытутаў прадставілі штогадовы даклад аб стане і перспектывах развіцця эканомікі ФРГ.*

Галоўная сенсацыя — што справы ў эканоміцы краіны зноў значна палепшыліся пасля, здавалася, бязвыхаднага крызісу. Разам з тым, адзначаецца ў дакладзе, армія беспрацоўных у бягучым годзе ўзрасце тут прыкладна на 400 тысяч чалавек.

### Намаганні аказаліся дарэмнымі

*У Руандзе працягваецца крывавая міжусобіца паміж нацыяналістычнымі групоўкамі. Міжнародныя гуманітарныя арганізацыі звакуіравалі практычна ўвесь свой персанал з гэтай краіны.*

Усе намаганні спыніць грамадзянскую вайну ў гэтай краіне, якія прадпрымаліся апошнім часам міжнародным супольніцтвам, аказаліся дарэмнымі з-за немагчымасці дасягнення згоды паміж варожымі бакамі.

### Кур'ёзная забарона

*Незвычайнае рашэнне аб забароне стрыптыз-шоу аднаго з мясцовых начных клубаў прынялі нядаўна ўлады Лос-Анжэлеса.*

Прычынай паслужыла тое, што, на іх думку, уладальнікі клуба...ушчамілі правы інвалідаў на роўныя магчымасці пры працаўладкаванні.

### Каму давяраюць палякі?

*Войска Польскае — вось грамадскі інстытут, якому больш за ўсё давяраюць сёння 83 працэнты апытаных сацыёлагамі палякаў.*

За арміяй адразу ж "ідуць" тэлебачанне і каталіцкая царква. Даверам усяго паловы грамадзян карыстаюцца ўрад і сейм. Рэйтынг прэзідэнта яшчэ ніжэйшы (складае толькі 30 працэнтаў). Самы мізэрны давер выказаны прыватным банкам.

### Выбух на касмадроме

*Улады КНР паведамілі, што выкананне касмічнай праграмы краіны ўскладнілася з-за выбуху пускавой устаноўкі на касмадроме ў Сіньцзяне.*

Прадстаўнік дзяржаўнай аэракасмічнай карпарацыі пацвердзіў паведамленне аб тым, што ў выніку выбуху загінуў адзін чалавек і паранена больш як дваццаць. Былі знішчаны метэаралагічны спадарожнік і лабараторыя.

### "Шпіёнскі" аўкцыён

*У Лондане на аўкцыёне Сотбі ў ліпені будуць выстаўлены для продажу кнігі і асабістыя рэчы Кіма Філбі, аднаго з кіраўнікоў англійскіх спецслужбаў і былога савецкага разведчыка.*

Удзельнікі аўкцыёну змогуць набыць, акрамя іншага, надрукаваную на машынцы незавершаную аўтабіяграфію Філбі, памёршага ў 1988 годзе, а таксама лісты, атрыманыя ім ад вядомага пісьменніка Грэма Грына.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

СПАДЧЫНА

# Цуды ў парку

□ Мікола БАГАДЗЯЖ, "ЧЗ"

Раз у два гады ў той час, калі сонечныя промні толькі-толькі пачынаюць прыграваць, калі прачынаецца ад зімовай спячкі зямля, у старадаўнім парку на ўскрайку Мінска адбываецца цуд. У Лошыцы расцвітае вялікім ружовым букетам маньчжурскі абрыкос. Праз некалькі тыдняў эстафету прымае яго суседка, што расце цераз дарогу — магнолія-Кобус. Яна ўпрыгожвае свае яшчэ голыя галінкі буйнымі белымі кветкамі-зоркамі. А затым парк пакрываецца шматкалерным кіпенем кветак і суквеццяў і пяшчотнай зелянінай лісця. Зашуміць у высачэзных шатах вецер, зашчабечуць-заспяваюць у іх птушкі.

Гэта будзе знак таго, што вясна ўвабралася ў сілу. І знак таго, што парк жыве, нягледзячы ні на што. А мясціны тут дзіўныя. Шмат хаваюць яны тайн. Людзі пасяліліся на гэтым месцы даўно. Археалагічныя звесткі даюць падставу сцвярджаць, што адбылося гэта ў XVI—XVII стагоддзях. Старадаўняе ж паданне расказвае пра яшчэ больш раннія часы. Быццам бы недалёка ад гэтага месца адбылася вялікая бітва. Напрыканцы яе цяжка паранілі князя, які ўзначальваў войска абаронцаў гэтай зямлі. Схіліўся ён на шыю свайго каня і страціў прытомнасць. А той вынес гаспадара з гушчы крывавай сечы і прывёз яго на сабе да крынічкі, што бурліла з-пад зямлі на тым месцы, дзе зараз раскінуўся парк. Вада з яе прывяла князя ў прытомнасць і спрыяла таму, што раны хутка загаіліся. Існуе думка, быццам паданне звязана з шырока вядомай бітвай на Нямізе. І што адбылася яна дзесьці ў наваколлі. Гіпотэзу гэту пацвердзіць альбо аправергнуць могуць толькі археалагічныя даследаванні.

Пісьмовыя ж звесткі аб Лошыцы з'яўляюцца на старонках "Літоўскай метрыкі" ў 1557 годзе. У ёй гаворыцца аб тым, што ў той час на гэтым месцы існавалі двор Лошыцкі князя Талачынскага і двор Сухая Лошыца князя Адзінцова. Напрыканцы таго ж стагоддзя абодва гэтыя двары перайшлі ў рукі князёў Друцкіх-Горскіх. А ад тых дасталіся графам Прушынскім (прадстаўнікі якога валодалі ім да 1917 года). Адзін з прадстаўнікоў гэтага рода — Станіслаў быў дбайным гаспадаром. Клапоцячыся аб сваіх прыбытках, ён пабудаваў на рацэ Свіслач вялікі млын "а дванаццаці колах". Верагодна, што ён і ўтварыў невялічкае штучнае возера, якое існуе да гэтага часу.

Сярэдні сын Станіслава Яўстафій больш чым шэсцьдзесят гадоў гаспадарыў у маёнтку. Пры ім была закладзена ліпавая алея. Гэтыя ўжо двухсотгадовыя дуплістыя ліпы і ў наш час "нясуць ганаровую вахту" паабапал алеі, якая вядзе ад уваходу да сядзібы. Магчыма, яны памятаюць, як праходзіў пад іх шатамі В.Дунін-Марцінкевіч. Не раз наведваў ён дом Станіслава Прушынскага. Прыходзіў і адзін, і з сябрамі, бо сядзіба гэта была адным з тых нешматлікіх месцаў, дзе збіралася ў той час прагрэсіўна настроеная інтэлігенцыя Мінска.

Наступным гаспадаром гэтых мясцін быў пляменнік Станіслава Яўстафій Любанскі. Дзякуючы яго клопатам маёнтак ператварыўся ў адну з самых вядомых гаспадарак Мінскай вобласці. Амаль адразу пасля ўступлення ў правы спадчанніка ён распачаў рэканструкцыю сядзібы. Тады ж быў пабудаваны двухпавярховы драўляны флігель, зроблена агароджа з каваных рашотак. Рэканструяваліся і гаспадарчыя пабудовы. Замест старога бровара пабудавалі вінакурны завод. Драўляны млын замянілі мураваным трохпавярховым. Менавіта Любанскі, які, дарэчы, быў адным з найбольш актыўных членаў Мінскага сельскагаспадарчага таварыства, заклаў у сядзібе парк. Бачачы, што ў гэтых мясцінах своеасаблівы мікраклімат, звярнуўся да вучоных з прапановай аб стварэнні на базе лошыцкіх зямель і вадаёмаў узорна-паказальнай станцыі для правядзення навукова-даследчых эксперыментаў. Прапанову не падтрымалі.

Дарэчы, з гэтым апошнім дарэвалюцыйным гаспадаром Лошыцы, а дакладней з яго жонкай, звязана амаль неверагодная гісторыя. Пані Ядвіга Любамірская здраджвала мужу. Яна без памяці была закахана ў графа Чапскага, які жыў па суседству, — у Прылуках. І вось у канцы красавіка 1905 г. муж наладзіў у маёнтку свята. З'явілася шмат людзей. А жонка чакала свайго каханага. Яны даўно не бачыліся, бо граф ездзіў за мяжу і толькі-толькі вярнуўся дадому. І трэба ж было так здарыцца, што ў самы непадыходзячы момант у пакой, дзе мілаваліся закаханыя, выпадкова зайшоў гаспадар. Што было далей — зразумела. Пані Ядвіга ў роспачы накіравалася да рэчкі. За ёй увязаліся два пакаёвыя сабачкі. Яны ўзнялі брэх. Прынеслі дадому капялюш сваёй гаспадыні. Любанскі з прыслугай захваляваліся. Кінуліся шукаць. Аднак позна. На месцы, дзе знайшлі тапельніцу, гаспадар загадаў пасадзіць дзве вярбы. Сапраўды было штосьці падобнае ці гэта прыгожая легенда — цяжка сказаць. Аднак ля руін капліцы, якая ўзвышаецца недалёка ад сядзібы, ёсць надмагільны помнік з імём гэтай пані.

Пасля рэвалюцыі парк, які страціў гаспадара, пачаў занепадаць. Частку дрэў высеклі, частка, асабліва экзатычныя, без нагляду загінула. Аднак навукоўцы пра гэтае месца не забыліся. Славуты вучоны-селекцыянер М.І.Вавілаў звярнуўся да ўрада Беларусі з прапановай аб стварэнні ў гэтым месцы аддзялення Інстытута прыкладной батанікі і новых культур. Аддзяленне стварылі. І пачалася напружаная праца. Шмат новых сартоў розных раслін вывелі тут. Шмат акліматызавалі. Да гэтага часу ёсць у Лошыцы калекцыі гэтага інстытута. Яблыкі, парэчкі белыя, чырвоныя, чорныя, нават ружовыя. Аж 20 відаў! Прыгадаю, што ў той жа Англіі ёсць толькі адзін від парэчак. І лічаць іх замежныя спецыялісты "культурай капрызнай, пяшчотнай, якую цяжка даглядаць". У беларускіх жа садах ды на дачах дзякуючы намаганням селекцыянера А.Г.Валазнева яны сталі звыклай раслінай. Ды хіба толькі парэчкі? Узяць той жа хлеб. У Беларусі вырошчваюць толькі тыя сарты, якія былі выведзены супрацоўнікам інстытута, потым прэзідэнтам АН БССР А.Р.Жэбракам. Нездарма ўсе госці рэспублікі заўважаюць, што хлеб наш адрозніваецца смакам. Зразумела, што адны навукоўцы такі аб'ём працы не асілілі б. Для абслугоўвання інстытута быў створаны саўгас. Потым НДІ пераехаў. Землі ж засталіся ў саўгаса. Вось з гэтага моманту і пачаліся пакуты парку. Ён практычна застаўся бездагляднЫ. Садаводчыя плантацыі, якія засталіся пасля інстытута, драбілі строгую класічную планіроўку парку, нявечылі расліны, высякалі, выкопвалі. Паміж каранямі сто-стопяцідзесяцігадовых дрэў раскладвалі вогнішчы, а намінальнаму "ўладару" — адміністрацыі саўгаса "Лошыцы" — да гэтага не было ніякай справы. Пад час гэтай вакханаліі ссечана было не адно рэліктавае экзатычнае дрэва. Нават амаль усю капліцу на цэглу разабралі. Чыгунныя мастацкага ліцця вароты звезлі ці то на звалку, ці то камусьці на лецішча...

Чатыры гады таму назад была прынята пастанова аб стварэнні запаведніка. Узнікла дырэкцыя парку. Набраны хоць невялічкі штат супрацоўнікаў. І... толькі летам мінулага года атрымалі яны 7,4 гектара зямлі (маецца на ўвазе тая, на якой знаходзіцца парк). А большасць у каго? Як і раней, у саўгаса. Яго кіраўнікі раздаюць яе направа і налева. Жадаеце ўтварыць садова-агароднае таварыства? Калі ласка. Справа, зразумела, добрая. Гараджаніну таксама не перашкодзіць пакаштаваць гуркоў ды цыбулі, якія ён вырасціў сам. Аднак гэтым самым агароднікам цяжка прайсці некалькі соцень метраў пешку. Абавязкова трэба прыехаць на машыне. І вымыць гэту машыну ў рэчцы. І нарваць букет кветак пашыкоўней для жонкі ці знаёмай... А букеты гэтыя рвуць у парку. Прычым абскубаюць не толькі бэз (якому, кажуць, ад гэтага карысць), але і экзатычныя кусты.

Ну ды гэта, увогуле, дробязі. А вось тое, што вялікая частка парку абгароджана высачэзным плотам, на якім красуюцца шыльды "МП "Тэвис" ды "Посторонним вход воспрещён", больш небяспечна. Бо да іх варот раз-пораз праязджаюць праз парк вялікагрузныя машыны, бо на іх тэрыторыі апынуліся рэшткі каплічкі і могілак ля яе. Ляжаць на іх былыя гаспадары, ляжыць пані Лінская. А на іх могілках гэты самы "Тэвис" утварыў звалку. І ніхто яму не ўказ. Бо "Посторонним вход воспрещён". І не пусцяць на "сваю" тэрыторыю нікога непажаданага, бо баяцца ім няма чаго. Узначальвае ж гэта малое прадпрыемства не хто-небудзь, а былы намеснік старшыні Ленінскага райвыканкама А.С. Запёкін.

Аднак, нягледзячы на ўсе перашкоды, праца па аднаўленню парку зрушылася з месца. Адразу пасля таго, як дырэкцыя атрымала зямлю, у парку пачалася расчыстка. Зноў загуляла ў ім сякера. Але ссякаюцца зараз альбо невылечнахворыя дрэвы, альбо "дзікуны" (выраслыя самастойна за час безгаспадарчасці). Праўда, гінуць і стромкія высокія таполі. Гінуць з-за таго, што павырасталі і засцяць свет больш каштоўным пародам дрэў. Ды і адзін аднаму перашкаджаюць. Так што давялося праводзіць выбарачную, альбо, дакладней кажучы, санітарную высечку. Прычым, дрэвапавал вядзецца вельмі асцярожна. Так, каб падсечанае дрэва, крый Божа, не зламала маладыя парасткі іншых. Так, каб не пашкодзіла сваіх суседзяў. Дырэктар садова-паркавай гаспадаркі Я. Церахаў поўны аптымізму. Упэўнены, што з цягам часу навядзе парадак. Пазбавіцца і ад "набегаў" агароднікаў, і ад "Тэвиса" і ад іншых прэтэндэнтаў. Спадзяецца ў хуткім часе распачаць тут працу па ўтварэнню своеасаблівага навучальнага цэнтра экалагічнага выхавання. Нават распрацаваў шэраг прапаноў.

А пакуль што вядзецца падрыхтоўка да ўсяго гэтага.

Між тым, сонейка з кожным днём грэе ўсе мацней і мацней. Зямля пачала адыходзіць ад зімовай спячкі. Міне яшчэ крыху часу — і ў гэтым чароўным кутку адбудзецца цуд. У Лошыцкім парку расквітнее велізарным ружовым букетам адзіны ў Беларусі экземпляр маньчжурскага абрыкоса...

АТЫ-БАТЫ

# Хачу служыць Беларусі... у Расіі

□ Андрэй ХАНК

Лёгка разважаць на абстрактныя тэмы ў натоўпе. Што можа быць прасцей, чым любіць Радзіму, седзячы ля тэлевізара? І сёй-той радуецца ў думках таму, што яго патрыятызм не пашыраецца далей за дыванчык, які ляжыць ля ложка.

Іншая справа, калі ўменне самазабыўна быць адданым Айчыне — твой прафесійны абавязак. Хочаш не хочаш, а міжволі прыходзіш да думкі, што гэтае высакароднае пачуццё аплачваецца дзяржавай. Што ж рабіць, калі яно не ў стане ацаніць тваю працу па заслугах?

Прафесія афіцэра, нягледзячы на сваю спрадвечную неабходнасць, ніколі не з'яўлялася прыбытковай. Рэдка каму з іх удавалася нажыць салідны капітал, акрамя "паслужнога спіса" ў медыцынскай картцы. Аднак і жабраваць ім не даводзілася. Як там у Пятра І "...Жалование платить исправно и в кабаках не отказывать". Утрыраваў, вядома, вялікі цар. Але сутнасць бачыў у корані: няўдзячная праца афіцэра заўсёды з лішкам акуплялася ў ліхую часіну. І ніколі раней ніхто не мог дадумацца, каб эканоміць на арміі.

Што ж, модна цяпер стала грошы лічыць. З галіны па "зайчыку" — дзяржаве ў бюджэт. Толькі вось, што кафтан, што бюджэт — усё роўна трышкаў атрымліваецца: як ні адрэж — усюды брэш. Спачатку мы абвясцілі суверэнітэт. За свабодай ад "прыгнёту Крамля" — стварэнне нацыянальнай арміі. Здавалася б, сапраўды, што гэта за дзяржава, калі яна не можа сябе абараніць. Ажно не, утрымліваць "групку Савецкай Арміі, раскватараванай у Беларусі", нам аказалася не пад сілу. Не ў стане мы, аказваецца, пракарміць яе. А аддаваць — шкада. Тэхніка няхай стаіць: калі што — прадаць можна. Методыка простая і па гэтай прычыне дзейсная. Паток беларусаў-ваеннаслужачых, якія кінуліся ў родныя мясціны з іншых рэгіёнаў СНД, вырашыўшы служыць Айчыне верай і праўдай, высах літаральна за год, як толькі стала ясна, што Радзіма ў іх паслугах, мякка кажучы, не мае патрэбы...

Дакладней, мае патрэбу: з 1992 года Узброеныя Сілы Беларусі зведваюць востры дэфіцыт у малодшых афіцэрах — да батальённага звяна ўключна. І лічбы, самі разумееце, з кожным годам растуць. Але праца афіцэраў пры ўсім гэтым ацэньваецца настолькі нізка, што іх цяпер на Радзіму і абаранкам не завабіш. Мяркуйце самі: зарплата лейтэнанта ў Расіі 260 тысяч рублёў, у Беларусі — і "зайчыкамі" столькі не набярэцца. Нават Украіна і тая ацаніла сваіх афіцэраў вышэй. Мы ж вырашылі гэту праблему прасцей — Міністэрства абароны рэкамендавала не звальняць маладых афіцэраў з арміі па нежаданню служыць. Магчыма, гэта часова стрымае цякучасць кадраў. Але што рабіць, калі такія непапулярныя меры зусім адбіваюць ахвоту ў маладых абараняць родныя рубяжы? Вынікі сацыялагічных даследаванняў, праведзеных у двух ваенных вучылішчах — Мінскім вышэйшым ваенным камандным і Мінскім вышэйшым ваенным інжынерным, ашаламілі нават песімістаў. У МВВКВ жадаюць працягваць службу ў арміі 39 працэнтаў апытаных выпускнікоў, у МВВІВ — яшчэ менш — 21. З іх толькі 32 працэнты прытрымліваюцца традыцый, перакананняў або жадання зрабіць кар'еру. 44 ж працэнты апытаных не бачаць выйсця — яны ўжо вельмі цесна звязалі свой лёс з арміяй і ў іх няма магчымасці што-небудзь змяніць. 78 працэнтаў выпускнікоў ваенных вучылішчаў вельмі хочуць служыць Радзіме пад дахам іншага ведамства — МУС, КДБ ці пагранічных войск. І прычыны ўсё тыя ж: нізкае матэрыяльнае становішча ў армейскіх афіцэраў, адсутнасць сацыяльных гарантый і перспектыў у службе. Даходзіць да парадаксальнага, калі курсанты-беларусы выказваюць жаданне прадоўжыць службу ва Узброеных Сілах Расіі.

Чаму ж Расія знайшла магчымасць забяспечыць сваім афіцэрам належны жыццёвы ўзровень, а Беларусь — не? Ці, можа, будзе больш эканамічна спачатку скараціць армію, а потым аплачваць расходы па абучэнню афіцэраў, але ўжо за мяжой? Падрыхтоўка сучаснага лётчыка каштуе мільёны рублёў. І не кожная дзяржава мае магчымаць іх абучаць. Вось і атрымліваецца, што, праседзеўшы на пустым беларускім аэрадроме і страціўшы за год-два кваліфікацыю, "уладары неба" пішуць рапарты з просьбай аб пераводзе ў армію суседняй дзяржавы. Расія, якая цвёрда заявіла аб недатыкальнасці сваіх граніц, выглядае з пункту гледжання афіцэраў больш прэзентабельнай.

Мала таго, што поўнасцю страчаны прэстыж службы; як служыць Айчыне, калі цябе ўвесь час прымушаюць адчуваць сябе нахлебнікам?

# Радзеюць шарэнгі...

□ Сяргей ВЕРАШЧАК

*Факты — рэч упартая. А яны гавораць, што апошнія законы працуюць на змяншэнне колькасці прызыўнікоў. Нашымі парламентарыямі прыняты такія палажэнні Закона "Аб усеагульным воінскім абавязку і ваеннай службе", якія пакідаюць у баку ад прызыву многіх маладых людзей. Гэта ў першую чаргу датычыцца абмежаванняў па стану здароўя. Пад гэты пункт можа трапіць, пры жаданні, практычна кожны. А яшчэ ж існуе грамадскі рух за ўвядзенне альтэрнатыўнай службы...*

*Але хто ж у такім выпадку будзе служыць ужо сёлета? Гэтай вясной, у адпаведнасці з новым заканадаўствам, звальняюцца адразу два прызывы — пасля паўтара і двух гадоў службы.*

Яшчэ свежыя ў памяці маніпуляцыі Вярхоўнага Савета Украіны ў канцы 1993 года з прычыны тэрміну службы ў арміі: ці то паўтара года, ці то два. Чаму? Ды ўбачылі, што служыць ужо няма каму. Вось і абавязалі камандзіраў (!) мінулай восенню вярнуць "паўтарагадошнікаў" даслужваць. Ці не атрымаецца і ў нас так?

З-за недахопу асабовага саставу на некаторыя пасады дазволена браць цывільных спецыялістаў. Але гэта абыходзіцца дзяржаве ў капеечку. Дзе ж выйсце? У кантрактнай сістэме — скажуць многія. І будуць мець рацыю. Кантракт вырашыць многія праблемы. Ваеннаслужачы на сваім месцы будзе не адзін год, а значыць, добра вывучыць сваю справу. Кантрактнікі, напрыклад, не будуць гінуць з-за ўласнай неасцярожнасці, неахайнасці ў абыходжанні з асабістай зброяй, адсутнасці адказнасці за выкананне баявой задачы.

Толькі за адзінаццаць месяцаў мінулага года ў Беларусі пры нясенні каравульнай службы загінула 11 чалавек і 14 атрымалі раненні. Маладыя хлопцы яшчэ не памужнелі, не ўсвядомілі, навошта ім у рукі далі зброю, а тут трэба заступаць на пост. Безумоўна, патрэбен нейкі перыяд, каб адаптавацца да армейскіх умоў, адчуць упэўненасць. Гэта, як правіла, некалькі месяцаў. І вось салдату застаецца служыць крыху больш як год. Гэтага мала пры забеспячэнні арміі сучаснай зброяй і недастатковай агульнаадукацыйнай падрыхтоўцы прызыўнікоў.

Між тым, хоць у свеце і "пацяплела", ніхто ад арміі адмаўляцца не збіраецца. Ваенныя дактрыны толькі трансфармаваліся ў фармулёўкі, якія не рэжуць слых. Ужо няма "яўных і патэнцыяльных праціўнікаў". Няма і "ідэі нападу на ворага на яго ж тэрыторыі". Але затое з'явіліся сферы жыццёвых інтарэсаў і "верагоднасць папераджальнага ўдару" для абароны дэмакратыі і агульначалавечых каштоўнасцей".

Ды што тут казаць! Салдат быў і будзе патрэбны. Але не заўсёды жаданні супадаюць з магчымасцямі. Асабліва, калі жаданні прызыўнікоў і армейскіх начальнікаў дыяметральна разыходзяцца. Гэта можна прасачыць на прыкладзе Мінска і Мінскай вобласці. Восенню мінулага года на прызыўныя камісіі былі выклікана 19734 чалавекі. Але 1134 маладыя хлопцы яўна не з-за ўпадку сіл так і не змаглі дабрацца да ваенкаматаў. А гэта ж больш як 17 працэнтаў!

Аднак страты ў час прызыву на гэтым не скончыліся. Адтэрміноўку ад службы ў арміі атрымалі яшчэ 9807 юнакоў. Хто па сямейных абставінах, хто для працягу адукацыі. У тым ліку памяняць сваю вопратку на курткі колеру "хакі" па стану здароўя не змаглі 1697 чалавек.

Хто ж не знайшоў дарогу на пасяджэнні прызыўных камісій? Ды тыя, хто спадзяецца на гуманнасць (лепш сказаць, на мяккасць нашых законаў). З 1134 толькі чацвёртая частка "заблукала" ўпершыню. Напрыклад, чатыры і больш разоў ад прызыву ў армію ўхіляліся 362 чалавекі, тройчы — 173, двойчы — 281. А ўсё таму, што штрафы ну проста смешныя (у адрозненне ад рэальных цэн). Ды і квітанцыю на штраф за няяўку можна ўручыць толькі... самому прызыўніку. Застаецца адна надзея — на суд, пракурорскія перасцярогі. Але зноў жа патрэбна прысутнасць прызыўніка, які кінуўся наўцёкі або якога старанна хаваюць родныя.

Такім чынам, у "кірзачы" і шынялі апранаюцца толькі 30 працэнтаў тых, хто абавязаны, як таго патрабуе Канстытуцыя, аддаць свой абавязак Айчыне. Калі мець на ўвазе нашу рэспубліку, то толькі 44 тысячы з 120, што належаць прызыву, апранаюць салдацкія пагоны.

Ці ж гэтай колькасцю папоўніш падраздзяленні Узброеных Сіл суверэннай Беларусі?

У пачатку лютага ў Мінску прайшла міжнародная канферэнцыя, прысвечаная праблеме альтэрнатыўнай службы. Там прагучала цікавая інфармацыя: у ФРГ, дзе грамадзянская і ваенная служба карыстаецца роўнай павагай, 14 працэнтаў прызыўнікоў заяўляе аб сваім жаданні не браць у рукі зброю, а прайсці грамадзянскую службу па месцы жыхарства. Уявім на хвіліну, што ў Беларусі закон аб альтэрнатыўнай службе ўступіць у сілу перад вясеннім прызывам. Як вы думаеце, колькі юнакоў выкажа жаданне працаваць, прабачце, прайсці грамадзянскую службу ў сферы сацыяльнага забеспячэння, дзе ў асноўным трэба даглядаць хворых, састарэлых і інвалідаў? Ды яшчэ па месцы жыхарства! Можна меркаваць, што ў армію добраахвотна згодзяцца ісці толькі адзінкі — тыя, хто па-сапраўднаму захоплены ваеннай тэхнікай і зброяй або адданы паветрана-дэсантным войскам. І калі нават у арміі камандзіры не заўсёды могуць прасачыць за нядбайным салдатам, то ці стане ён рэгулярна даглядаць старога? 1300 чалавек, меўшыя раней прыводы ў міліцыю або асуджаныя, прызваныя ў рэспубліцы ўвосень 1993 года, ужо дакладна б не гарэлі жаданнем.

Вядома і другое: колькасць тых, каму рэлігійныя перакананні забараняюць браць у рукі зброю, пасля прыняцця закона аб альтэрнатыўнай службе рэзка ўзрасце, бо сёння — адны перакананні, а заўтра — другія. У грамадстве, дзе не шануецца мараль, гэта нядзіўна.

Для даведкі: паводле афіцыйных звестак колькасць, напрыклад, евангельскіх хрысціян-баптыстаў не такая ўжо і вялікая. У прызыўным узросце (ад 18 да 30 гадоў) іх усяго 1400 чалавек, адвентыстаў сёмага дня і таго менш — 182 чалавекі. Праўда, крыху больш "пяцідзесятнікаў" — каля трох тысяч.

Дык што ж нам рыхтуе вясенні прызыў? Ці не з'явяцца і ў нас афіцэрскія танкавыя экіпажы і афіцэрскія каравулы, як у нашых бліжэйшых суседзяў па СНД?

Пажывём—пабачым...

# Свабода слова...пад грыфам "Сакрэтна"

□ Аляксей БЕЗВЯСЕЛЬНЫ

У пачатку красавіка ў падмаскоўным санаторыі "Бор" адбыўся міжнародны семінар на тэму "Асвятленне сродкамі масавай інфармацыі пытанняў абароны ў дэмакратычным грамадстве". Яго спонсарамі-арганізатарамі сталі недзяржаўныя структуры — Расійска-амерыканскі інфармацыйны прэс-цэнтр, Расійскі цэнтр праблем нацыянальнай бяспекі і міжнародных адносін, а таксама Атлантычны савет ЗША.

За "круглым сталом" сустрэліся журналісты з Расіі, Украіны, Беларусі, ЗША, Італіі і ФРГ, якія пішуць на ваенныя тэмы. Згадзіцеся, што раней, у гады "халоднай вайны", падобнае мерапрыемства і ўявіць было немагчыма. Каб вось так сабрацца і абмеркаваць сапраўды хвалюючыя праблемы. На працягу многіх гадзін весці карысны, канструктыўны дыялог ва ўтульнай канферэнц-зале або за кубкам кавы ў бары.

Чым жа канкрэтна займаліся ўдзельнікі семінара на працягу трох дзён? У ходзе пленарных і секцыйных пасяджэнняў, "круглых сталоў" былі абмеркаваны многія пытанні. Напрыклад, прыярытэты ў забеспячэнні свабоды слова пры асвятленні пытанняў абароны заходнімі і постсавецкімі журналістамі?

Нашы заходнія калегі кіруюцца прынцыпамі адкрытасці і даступнасці, уласцівымі сапраўды дэмакратычным краінам. Пра гэта вялі гутарку дырэктар "Радыё Свабода" з Мюнхена спадар Клоўс, памочнік дырэктара Нью-Йоркскага цэнтра навін па пытаннях вайны і міру спадар Левіт, супрацоўнік амерыканскага Цэнтра абароннай журналістыкі спадар Метр і іншыя.

Даволі цікавая дыскусія ўзнікла і пры абмеркаванні пытання, якое датычыць праблемы ўзаемаадносін паміж Міністэрствам абароны і парламентам. Гэтаму ў немалой ступені садзейнічала змястоўнае выступленне прэзідэнта Цэнтра праблем нацыянальнай бяспекі і міжнародных адносін доктара гістарычных навук Сяргея Рогава, які здолеў настроіць прысутных на ажыўлены дыялог. І нягледзячы на тое, што ён выказваў пункт гледжання вучонага, практычна кожны журналіст даведаўся нешта новае.

Была закранута сапраўды "хворая" для журналістаў СНД тэма сакрэтнасці. На прыкладзе палажэнняў расійскай Канстытуцыі было пацверджана права грамадзян, а значыць, і ўсіх работнікаў сродкаў масавай інфармацыі, на атрыманне і распаўсюджанне інфармацыі любымі законнымі шляхамі.

На жаль, пакуль яшчэ для прадстаўнікоў трох славянскіх дзяржаў падобнае права носіць у асноўным дэкларатыўны характар. Тэарэтычна пытанне быццам бы высветлена, а на практыцы ўсё яшчэ назіраюцца выпадкі праяўлення цэнзуры як ваеннай, так і палітычнай. Заходнімі журналістамі падобныя з'явы былі ўспрыняты са спачуваннем. Дарэчы, і "савецкія" журналісты спадзяюцца, што чарга калі-небудзь дойдзе да дэмакратычнага вырашэння гэтага пытання і ў нашых краінах.

Напэўна, найбольш значнай падзеяй стаў удзел у семінары ў першы ж дзень пасла ЗША ў Расіі спадара Пікерынга з жонкай. За амаль год дыпламатычнай работы ў Маскве ён упершыню згадзіўся выступіць перад журналістамі ў такім вузкім коле. Дарэчы, высокая ступень даверу панавала на працягу ўсёй двухгадзіннай гутаркі.

Тры дні праляцелі на здзіўленне хутка. Пасля цёплага развітання ўдзельнікі семінара раз'ехаліся па дамах, пакінуўшы ў сэрцы незабыўныя ўражанні, новыя веды, візіткі новых знаёмых і памятныя фотаздымкі, сувеніры... А самае галоўнае — надзею калі-небудзь зноў сустрэцца.

АДАМ І ЕВА

# Перавяліся мужыкі

Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

Вось не ўстрымалася і вырашыла напісаць вам. У вашай газеце прачытала неяк пісьмо-споведзь пад назвай "І ўсё ж я ўдзячны лёсу", дзе мужчына, што мае жонку і дзяцей, расказвае пра тое, як ён блукае па гарадскіх вуліцах, каб убачыць жанчыну, якую кахае ўсё жыццё... Скажыце, як такіх людзей зямля носіць? І ў яго яшчэ рука не задрыжала напісаць, што ён ніколі не здраджваў сям'і! І як толькі мы, жанчыны, даруем вам такое? Трэба было жонцы даўным-даўно выставіць гэткае "шчасце" за парог.

Некалі я таксама выйшла замуж, як мне здавалася, па каханню. Думала, лепшага чалавека няма і не будзе ніколі. Як я памылялася!.. Год таму муж мне здрадзіў. Даведалася я пра гэта ад сяброўкі — спачатку не магла паверыць, а паверыла — не стала сілы жыць з ім, бачыць яго... У рэшце рэшт угаварыў ён мяне на развод не падаваць, засталіся разам. Але што з таго? Муж пачаў піць, жыццё пакацілася пад гару...

Мне так хочацца мець хоць крышачку шчасця, нарадзіць дзяцей, якіх у нас няма, адчуць чыюсьці павагу і пяшчоту... Можна й развесціся, але дзе гарантыя, што зноў не сустрэнеш такога, які потым употайкі будзе "сохнуць" па іншай і пісаць у газеты пра сваё нешчаслівае каханне без адказу?

Маё пісьмо вы наўрад ці надрукуеце, але хоць выгаварылася — і тое лягчэй.

ЭСТЭТЫЧНАЯ СТУДЫЯ

# "Птаха мая — Белая Русь!"

Тэатралізаванае дзейства пад такой назвай днямі прадставіў на суд першых гледачоў — выкладчыкаў і студэнтаў Беларускага універсітэта культуры — трэці курс завочнага аддзялення "рэжысура масавых свят". "Чарнобыльскай бядзе прысвячаецца" — так у трох словах студэнты вызначылі галоўны матыў гэтай пастаноўкі.

Паўтары гадзіны, што займае прадстаўленне, перанеслі гледачоў ад часу Ефрасінні Полацкай да паэтычных навел Багдановіча, ад славутай Купалаўскай "Паўлінкі" да ўзнёслага кахання Мележаўскіх Васіля і Ганны, ад незразумела-трагічных вобразаў Малевіча да Мулявінскай "Пагоні"...

— Магчыма, мы ў нечым яшчэ недапрацоўваем, а аб'яднанне і Багдановіча, і Купалы, і Ефрасінні Полацкай "Чарнобыльскім крыжам" камусьці падасца немагчымым, — сказаў пасля спектакля загадчык пастановачнай часткі і выканаўца ролі пана Быкоўскага Рыгор Радчанка. — Але пад Чарнобылем мы ў першую чаргу бачым духоўную спустошанасць, а тэма пастаноўкі адна — гаротная наша Беларусь, нашы страчаныя традыцыі, наша агульная хвароба — бяспамяцтва.

Ад яе і паспрабавалі пазбавіцца будучыя рэжысёры-масавікі. Калі шчыра, часам у зале станавілася проста жудасна. Чатыры чалавекі, апранутыя і пазначаныя "маскай смерці", ледзь рухаючыся пад акорды памінальнай музыкі, вымушалі паверыць у самае страшнае — у смерць. Як істотную, чарнобыльскую, так і ў тую, якую нараджае шматгадовы вірус бяспамяцтва. Безумоўна, вока мастацтвазнаўцы, напэўна, адзначыла б некаторыя відавочныя "правалы" ў арганіцы акцёраў, у рэжысёрскім вырашэнні тых ці іншых момантаў, у музычным аздабленні эпізодаў. Аднак, думаю, нельга падыходзіць да пачынаючых акцёраў і рэжысёраў "клубнай арыентацыі" з патрабаваннямі атэстацыйнай камісіі Вышэйшай акадэміі мастацтваў, а ў кожнай дзяўчыне бачыць Марыю Ярмолаву ці Алісу Каонен — славутых трагічных актрыс пачатку стагоддзя. Справа ў першую чаргу ў тым, што юнакі і дзяўчаты ўзяліся за матэрыял, які за паўтары гадзіны наўрад ці адолела б самая прафесійная тэатральная трупа. Жаданне спасцігнуць карані — і нашы нацыянальныя, і тыя, што прывялі да знішчэння традыцый, — усё гэта надало спектаклю тую глыбіню і трагізм, што вызначаюць ужо сапраўдны прафесійны ўзровень.

— Многае з таго, над чым мы працавалі, нам і самім было малавядома, — прызнаецца Р.Радчанка. — Але, мне здаецца, наша праца (праца культработнікаў) павінна як адукоўваць, так і дапамагаць адукоўвацца самім.

Асаблівым лірызмам, мілагучнасцю, пранікнёнасцю вызначыўся музычны нумар "Вераніка" (рэжысёр А.Паддубская) паводле вядомай песні М.Багдановіча і У.Мулявіна. Цудоўнай харэаграфічнай мовай перадалі і яшчэ адну песню гэтых жа аўтараў — "Слуцкія ткачыхі" (рэжысёры Ж.Сёмачкіна і М.Абрамчык). А музычны нумар паводле народнай песні "Перапёлачка" (рэжысёр В.Гвінт) уразіў сваёй бясконца балючай праўдай.

І апошняе. Спектакль паказаны, адзнакі ў залікоўках прастаўлены і да наступнай сесіі час яшчэ ёсць. І ёсць магчымасць працаваць над новымі творамі, ажыццяўляць чарговыя творчыя задумы. Іх у студэнтаў шмат. І дзякуй Богу, што не над усімі намі сёння ўладараць грошы і рэчы. Што ёсць людзі (і маладыя), якія свядома выбіраюць "безграшовую" працу культработніка, а для ажыццяўлення сваіх "асветніцкіх" планаў выкарыстоўваюць уласныя сродкі, як гэта было з 314-й групай 3-га курса рэжысёраў масавых святаў БУКа.

Сапраўды, рэчы — бездухоўныя і мецяць бездухоўных. І як страшна і цяжка хадзіць па жыцці з гэтай меткай. Пра гэта таксама расказвае пастаноўка "Птаха мая — Белая Русь!"

Майя ШЭНДРЫК.

